*Зважай! Літва йдзе!*

LITVA




*Друкуецца ў літоўскае мове*

LITHUANIA

*Зроблена 30 лістапада 1995 году № 4(4)*

## Суседзі

### Літвякі

*Так звалі габрэяў на Літве. Што мы ведаем пра гэты народ, ягоны лёс, традыцыі, наданьне ў культуру ліцьвінаў? Каб распавесьці пра частку ягонае гісторыі, ня хоцічь энцыклапедыі, таму на старонках «ЛІТВЫ» габрэям дадзена трохі больш месца, чым звычайна.*

Напрыканцы XII — пачатку XIII стагодзьдзяў пачалася эміграцыя габрэяў з Заходняе ды Цэнтральнае Эўропы ў Польску, што набірала эканамічную моц, а трохі пазьней — на ўсход, у Вялікае Князтва Літоўскае.

Першай маючай давер крыніцай аб габрэйскім насельніцтве зьяўляецца «Прывілея-Судзебнік», дадзеная ў 1388 годзе габрэям места Берасьця. З 1495 году габрэяў меліся выселіць за межы Князтва, але ўжо ў 1503 годзе было адмененае ранейшае рашэньне й габрэі, якія выехалі, варочаліся дамоў. З пачатку XVI стагодзьдзя пачалося шпаркае засяленьне габрэямі літоўскіх земляў. У 1506 годзе заснавана габрэйская грамада ў Пынску, у 1539 годзе — ў Клецку ды Наваградку, пасьля — ў Менску, Полацку, Вітабску, Магілёве, Воршы. У 1766 годзе колькасьць габрэяў на Літве складала 62 тыс. чалавек. Буйнейшыя грамады габрэяў месьціліся ў Менску (1396ч.) і Пынску (1350ч.). Прыканцы XVIII стагодзьдзя ўсходняя мяжа Белорусскай губерні (Усходняй Літвы) зьяўлялася так званай «рысай асяленьня», на захад ад якое зканцэнтравалася асноўная маса габрэйскага насельніцтва Расейскае Імпэрыі.

Тэрытарыяльная замкнёнасьць, канфэсійная асабовасьць юдаізму, шматвяковая аддаласьць бацькоўскім традыцыям абумовіла спэцыфічнасьць заняткаў, ладу жыцьця ды сацыяльнае структуры літоўскіх габрэяў. Асноўным йіхным заняткам было гандлярства ды дробны бізнэс, а таксама рамёствы, дамаробства, арандатарства, шынкарства (утрыманьне шынкоў), утрыманьне заездаў, а ў другой палове XIX стагодзьдзя з разьвіцьцём прамыславаcьці, габрэі пачынаюць кіраваць заводзкай вытворчасьцю (манухактурамі).

Па дадзеным перапісу 1897 году ў сфэры гандлю ды прамысловасьці было 74% усяго габрэйскана насельніцтва. Значная бонда (частка) габрэяў знаходзілася ў сфэры «вольных прафэсіяў» (доктары, адвакаты, журналістыя). Прафэсійная

*праця на 2-ой старонцы*



## Пагляд

*Мы беларусы з братняю Русяй*
*Разам шукалі да шчасьця дарог...*

### Парады наконт адраджэньня Кіеўскай Русі

Сеў я аднойчы й моцна задумаўся: годзе мне ўжо нацыяналістым быць.

Навошта? Вось разумныя рэчы гавораць інтэрнацыяналістыя: Усім ўсходнім славянам трэба аб'яднацца. Навошта гэтая Незалежная Літва, калі ўсіх ліцьвіноў «нейкіх» дзесяць мільёнаў? Калі-ж усе ўсходнія славяне аб'яднаюцца, то йіх будзе цэлых дзьвесьце мільёнаў! І гэта будзе не «малая» Літва, а цэлая супер-джяржава! Да таго-ж і не было ніколі ніякай асобнай Літвы раней, а была Вялікая Русь, але потым яна распалася.

Нейкія вучоныя «сэпаратыстыя» кажуць: не было ніякага старажытнарускага народу, а былі розныя асобныя плямёны. Але-ж вельмі гэта падобна да хлусьні — хай ня шчыруюць! Вядома, раней быў старажытнарускі народ, але ён распаўся — вось і ўзьніклі ліцьвіны, ўкраінцы, расейцы...

Я падзяліўся гэтымі развагамі з нацыяналістымі. І — о, дзіва! — яны зразумелі, што дагэтуль былі ў змане, і таксама прынялі такі сьветапогляд, які ў мяне. Вядома, лепш жыць усходнім славянам у вялікай славянскай супердзяржаве разам, чым быць падзеленымі межамі.

Паразумеўшыся, мы сталі разважаць над канцэпцыяй супердзяржавы ўсходніх славянаў, і вырашылі, што дзеля ўсеагульнага шчасьця ўсіх русінаў, трэба выканаць тры вельмі простыя ўмовы.

**Першая**: калі ліцьвіны, расейцы й ўкраінцы — адзіны народ, тады й ягоная гісторыя мае быць адзінай. Вось Нямеччына была падзеленая на ФРН* і НДР**(як то ўкраінцы й ліцьвіны на Заходнюю ды Ўсходнюю Украйну й Літву), а потым зноў ўзьядналася. І немцы вывучаюць гісторыю кожнае часткі. Вядома, ліцьвіны не народ, а частка агульнарускага народу, але тым ня меньш, калі народ адзіны, тады гісторыя павінна распавядаць пра лёс ягоны цалкам, куды-б ня трапіла ягоная частка. І было-б бязглузьдзіцай і не пабрацку спрачацца, якая ягоная частка была разумнейшай у гістарычным кантэксьце, 'накш хтосьці застаўся-б пакрыўджаным.

У Княстве Маскоўскім была ў пашане спрадвечная вера русінаў — праваслаўе. А ў Вялікім Князтве Літоўскім пасьля вуній з каталіцкай Польшчай — Крэўскай (1386 год), і асабліва Люблінскай (1569 год), праваслаўная вера моцна прыгняталася. Таму братырасейцы часта дапамагалі заходнім братам — украйнцам ды ліцьвінам. У падручнік гісторыі Адзінае Русі трэба абавязкова гэта запісаць. Але ў гісторыі «Заходняе Русі» былі й добрыя старонкі. Таму ў такі падручнік трэба не забыць напісаць, што вырашальны ўдар па татара-манголах быў учынены ліцьвінамі ў бітве на Сініх Водах у 1362 годзе — раней за Кулікоўскую бітву, а па крыжаках — у Грунвальдзкай бітве ў 1410 годзе — раней за Неўскую.

Што першы рускі друкар быў высокаадукаваны палачанін Скарына, а ягоным вучнем быў Ян Хведаровіч (Іван Фёдараў), які й заснаваў кнігадрукарства ў Маскоўшчыне й на Ўкраіне; што магілёвец Спірыдон Собаль выдаў буквар (лемантар), якім

*праця на 3-яй старонцы*

* *ФРН — Фэдэратыўная Рэчпаспалітая Нямеччына*
** *НДР — Нямецкая Дэмакратычная Рэчпаспалітая*

## Суседзі

працяг, пачатак на 1-ай старонцы

арыентацыя абумовіла зканцэнтраванасьць габрэяў у местах ды мястэчках. На 1897 год у Менску 52% ад колькасьці насельніцтва складалі габрэі, у Вітабску 52,4%, Магілёве 50%, Пынску 74,2%, Бабруйску 60,5%, Гомлі 54,8%.

У сацыяльным плане характэрнай рысаю расьсяленьня габрэяў было грамадовае самакіраваньне (габрэйская аўтаномія), адміністрацыйныя хункцы якога выконваў **Кагал**. Праз Кагал выплочваліся падаткі, гіснаваў пры йім суд, ды зрэшты Кагал рэгуляваў усё жыцьцё грамады. Розныя камісіі загадвалі фінансамі, судом, школамі, дабрачыннасьцю, доглядам могілак ды гіншым. Духовым айцом грамады быў **Равін**, які кіраваў выбарамі, быў старшынём у габрэйскім судзе, шлюбаваў, сачыў за шкалярскім навучаньнем, а таксама ставіў свой подпіс пад рашэньнем Кагалу, накладаў адыход ад грамады. Гіснаваў таксама па-надграмадовы **Ваад** Літвы (габрэйскі сойм), падобны «Вааду чатырох земляў» Польскі. Габрэйскае самакіраваньне прыканцы XVIII стагодзьдзя паслабела ў сувязі са скасаваньнем хункцаў Ваада, а ў 1844 годзе загадам царскага расейскага ўраду афіцыйна быў ліквідаваны Кагал. Але-ж габрэйскае самакіраваньне ў розных хормах працягвала гіснаваньне да пачатку XX стагодзьдзя.

Кожная габрэйская грамада мела **Сінагогу**. Сінагога была ня толькі малітоўным домам, але й месцам сходу сябраў грамады й таксама месцам навучаньня. Вялікай была роля юдаізму ў грамадзе. Законамі **Торы** вызначаўся ўвесь лад жыцьця габрэяў. У першыя дні пасьля нараджэньня над хлопчыкамі ўчыняўся абрад абразаньня (брытміла), з шасьці год йіх аддаюць на навучаньне да **Мэламеду** (настаўнік у пачатковай школе), у трынаццаць год адбывалася ініцыяцыя паўнагодзьдзя (сталасьці) і юнак меў мажлівасьць на шлюбаваньне.

У адрозьненьні ад акаляючага насельніцтва амаль што ўсе габрэі-мужчыны былі пісьменныя. Шкалярскае навучаньне хлапчукоў было абавязковым. Ад 6 да 13 год навучаньне адбывалася ў пачатковае школе — **Хэдэры**. У кожным мястэчку йіх было некалькі. Традыцыйная габрэйская адукацыя на Літве была рэлігійная. У Хэдэры вывучалася Тора (Пяцікніжжа). Навучаньне працягвалася ў **Ешыве** — вышэйшай навучальнай установе. Там вывучалі **Талмуд** ды камэнтары да яго. На Літве гіснавалі найбольш буйныя эўрапейскія Ешывы — Валожынская, Мірская, Лідзкая ды гіншыя, якія былі вядомыя ва ўсім габрэйскім сьвеце й куды зьяжджалася моладзь з усяе Ўсходняе Эўропы. Равіны ды навукоўцы-талмудыстыя якія скончылі Ешывы, адыгрывалі вялікую ролю ў габрэйскім жыцьці. У XVI-XVII стагодзьдзях цэнтрамі габрэйскага законанавучаньня робіцца Польска ды Літва.

У другое палове XVIII стагодзьдзя паўстае новы рэлігійны рух — **Хасідызм**, які шырока распаўсюдзіўся на Літве. Шнэур Залман зь Ляд і Мэнахэм Мендэль зь Вітабску сталіся першапачаткоўцамі аднога з накірункаў гэтага руху — **Хабад**, які адыграе вялікую ролю ў сучасным габрэйстве. У Караліне (былая ваколіца, зараз раён Пынску) ды Століне зарадзілася дынастыя Каралінскіх Хасідаў, квітнеючых і зараз у габрэйскім сьвеце.

Напрыканцы XVIII стагодзьдзя літвякаў пачынаюць вабіць ідэі габрэйскае асьветы — **Гаскалы**, буйнейшым цэнтрам якое робіцца Шклоў, а ў першае палове XIX стагодзьдзя — Вільня.

У другой палове XIX стагодзьдзя ўзмацніліся асіміляцыйныя працэсы. Але-ж пагромы 1881 і 1883 гадоў (якія, дарэчы, на Літву не распаўсюдзіліся, дзякуючы талерантнасьці ды павазе ліцьвінаў да ўсіх народаў, што жывуць на літоўскае зямлі) прымусілі габрэйскую інтэлегенцыю вяртацца да сваіх традыцыяў. Папулярнымі робяцца ідэі **Палестынафільства** ды **Сіянізму**. З другога боку літвяцкая моладзь далучаецца да рэвалюцыйнага руху. Зьяўляецца перыядычная габрэйская прэса на мове ідыш і іўрыт. Разьвіваецца літаратура.

Пасьля кастрычніцкага бальшавіцкага закалоту ў Петэрбурзе 1917 году, распачаўся новы этап у гісторыі габрэяў Літвы. Саветызацыя ды ідэалагізацыя грамадства разбурыла традыцыйны лад жыцьця літвякаў, зьдзяйсьняючы на свой капыл нацыянальную палітыку сярод народаў былое Расейскае Імпэрыі ў рэчышчы якое будавалася «новая» габрэйская культура. У гэты час выдаюцца некалькі перыядычных выданьняў, а таксама кнігі на ідыш. У 1924 годзе ў Інстытуце Беларускай Культуры ствараецца габрэйская сэкцыя, у Беларускім Дзяржаўным Унівэрсітэце — габрэйскі адзьдзел, ўчыняецца інтэнсіўная навуковая праца ў галіне габрэйскае гісторыі, лінгвістыкі, этнаграфіі. Рабілі тэатральныя гуртқі, былі створаны адзьдзелы ў музэях. У 1932-33 гадох у габрэйскіх школах навучалася 36.650 навучэнцаў (55% усіх дзетак шкалярскага ўзросту). У 1931 годзе ў 10-ці школах Радовае Літвы справаводзтва дзеялася ў ідышу. Але-ж із другой паловы 30-ых гадоў культурная аўтаномія габрэяў была зьліквідаваная, а ў гады сталінскіх рэпрэсіяў шмат якія дзеячы габрэйскае культуры загінулі, у йіх ліку паэты Ізі Харык, Майсей Кульбак, Зэлік Атэльрод.

працяг на 4-ай старонцы

## Аб адным

**Крумкаччо!**
**Я вас пакіну ў вашых чорных хмарах**
**Вам хмары, нам — зямля...**

*Ўладзімер Караткевіч*



### Сьмерць крумкача

Трыста гадоў жыў крумкач.
Трыста гадоў войны давалі яму спажыву.
Трыста гадоў ласаваўся ён вачыма бязьвінных ахвяраў.
Трыста гадоў сваім сіплым голасам жохаючы людзей ды зьвяроў, наконваў йім згубу.
І ніколі не памыліўся.
Здавалася пачварнаму птаху, што ён будзе жыць бясконца — вечна...
На трыста першым годзе спынілася сэрца ненавіснага ўсім птаха.
Абўрыўся крумкач на зямлю ды й сам ператварыўся ў тло.
Змоўклі людзі й зьвяры, чакаюць, хто будзе зноў весьціць йім няшчасьце.

*паводле Язэпа* ПАЛУБЯТКІ

### Крумкач

Жыў-быў адзін крумкач, які дзёўб мае ногі. Боты й панчохі ён мне ўжо прадзёр, а цяпер дзёўб самыя ногі. Ён наносіў ўдары дзюбай, потым неспакойна кружляў вакол мяне, і працягваў сваю працу. Побач праходзіў нейкі спадар і спытаўся, чаму я не праганю крумкача.

— Я-ж бяз зброі. — быў мой адказ. — Ён прыляцеў і пачаў дзяўбці; я, вядома-ж, хацеў яго адагнаць, спрабаваў яго на'т задушыць, ды гэтая птушка вельмі дужая, кінулася мне проста ў твар, і я палічыў за лепшае ахвяравацца нагамі. А цяпер яны амаль-што разадраныя.

— Навошта сябе гэтак мучыць? — прамовіў спадар, — Адзін стрэл — і з крумкачом скончана.

— Няўжо? — спытаўся я, — І Вы-б маглі зрабіць гэта?

— З ахвотаю, — адказаў ён, — Мне толькі трэба пайсьці дадому й ўзяць стрэльбу. Ці не маглі-б Вы пачакаць яшчэ паўгадзіны?

— Гэта я ня ведаю, — сказаў я, і на хвілю здраньцьвеў ад болю, а потым дадаў: — Калі ласка, паспрабуйце, на ўсялякі выпадак.

— Добра, — адказаў той спадар, — Я пасьпяшаюся.

Калі мы размаўлялі, крумкач спакойна прыслухоўваўся, пераводзячы свой позірк то на мяне, то на таго спадара. Цяпер я зразумеў, што ён пра ўсё здагадаўся: узьляцеў высока ў паветра, выгнуўся назад, каб ўзяць добры разгон, і, нібы кідальнік дзіды, ўткнуў дзюбу



глыбока ў мяне, праз мой рот. Падаючы, я з палёгкай адчуў, як ён захлынуўся ў маёй крыві, што запоўніла ўсе глыбіні й пералівалася праз ўсе берагі.

**Франц Кафка**

*пераклад зь нямецкае мовы Лявона Баршчэўскага*

## Было

### Саюз Беларускіх* Патрыётаў

Ён узьнік на пачатку 1946 году пераважна на тэрыторыі былое Заходняе Літвы як стыхійны пратэст нацыянальна-сьведамае моладзі супроць гвалтоўнае рассізацыі (маскалізацыі), разбурэньня літоўскае культуры ды мовы бальшавікамі.

На пачатку лета 1946 году зьявілася падпольная патрыятычная арганізацыя ў Слоніме з канспіратыўнай назвай «Чайка», заснавалі якую маладыя настаўнікі, учорашнія школяры. Падобныя групоўкі й арганізацыі ў тым часе ствараюцца ў Баранавічах, Берасьці, Глыбокім, Навагрудку, Паставах, Жыровічах і іншых местах ды мястэчках. На стадыі арганізацыйнага фармаваньня знаходзяцца суполкі студэнцтва ў Менску й Горадні. Улетку 1946 году асобныя групы з Баранавічаў, Слоніму, Навагрудку здолелі аб'яднацца й стварыць Цэнтар Літоўскага Вызвольнага Руху. Ў яго склад увайшлі Агейка, Аляксандар Барэйка, Мікола Макарэвіч, Ракевіч, Васіль Супрун (кіраўнік). Пад канец лета 1947 году рух перакінуўся на Маладэчанскую й Пынскую вобласьці. Узьніклі абласныя структуры кіраваньня. Іх узначальвалі Аляксандар Барэйка (Баранавіцкая вобласьць), Мікола Макарэвіч (Берасьцейская), Сяргей Яноўскі (Маладэчанская), Мікола Лескавец (Пынская). Назву пры далейшым аб'яднаньні суполак прынялі — Саюз Беларускіх (Літоўскіх) Патрыётаў.

Мэты, якія ставіў перад сабой СПБ, былі: абарона нацыянальных правоў і свабод, дасягненьне дабрабыту насельніцтва, захаваньне ды разьвіцьцё літоўскае культуры й мовы ды зрэшты — пабудова Незалежнае Літвы. Палітычны накірунак руху — сацыял-дэмакратыя. Сродкі дзейнасьці — агітацыя й прапаганда пераважна ў асяродзьдзі моладзі з мэтай абуджэньня й разьвіцьця сацыяльнае сьвядомасьці й нацыянальнае годнасьці народу.

З дапамогаю правакатараў узімку 1947 году СПБ быў зьліквідаваны ворганамі савецкай дзяржбясьпекі. Адбылося два закрытыя судовыя працэсы — у Менску й Полацку. Па Цэнтры Літоўскага Вызвольнага Руху было некалькі закрытых трыбуналаў у Баранавічах і Менску. Удзельнікаў патрыятычнага руху ашальмавалі як «фашыстаў» і жорстка пакаралі, некаторых зь іх расстралялі, шмат хто загінуў на бальшавіцкай катарзе.

*паводле газэты «Наша Слова»*

**Тут маецца на ўвазе «Літоўскіх»*

## Пагляд

*працяг, пачатак на 1-ай ст.*

карысталіся ня толькі ў Маскоўшчыне, але й у «нярускіх» землях, адкрыў у Маскве друкарню й школу; што Сімяон Полацкі быў выхавальнікам маскоўскага цара і, як Рагалеўскі, Шпакоўскі, Юшкевіч, Вішнеўскі і многія іншыя, зрабіў вялікі ўплыў на культуру Маскоўшчыны; што сьвецкія (цывільныя) літары — «гражданку» стварыў случанін Ільля Капіевіч, і іх упадабаў Пётр І, які загадам прыняў іх на ўжарыстаньне ў сваёй дзяржаве.

Адным словам, кожнаму павінна быць месца ў гісторыі, каб нікому не было крыўдна — мы-ж адзіны народ.

**Другая**: калі ўзьядналася Нямеччына, то яе сталіцай стаўся — Берлін, бо ён быў гістарычнай сталіцай Нямеччыны. Гэтаксама павінны зрабіць і мы. Летапісца напісаў: «Зямля руская паходзіць зь Кіеву». Таму сталіцай адроджанай Русі павінна быць не абы-якое места, — Вільня, Менск, Львоў або Масква, а гістарычная сталіца — Кіеў. Няможа-ж быць сталіцай супердзяржавы места, якое было толькі правінцыйным!

**Трэцяя**: адзінаму народу трэба мець адзіную мову. Нажаль, гістарычныя варункі падзялілі народ русінаў на плямёны, а мову — на дыялекты. Паўсюль і заўжды дзяржаўнай мовай нацыянальнага гаспадарства быў дыялект гістарычнага, палітычнага й культурнага цэнтру гэтае дзяржавы. Дзіўна было-б, калі гэта быў-бы дыялект нейкай правінцыі.

Сучасныя літоўская й расейская «мовы» значна аддаліліся ад сапраўднае русінскае (ісьцінна-рускай) мовы — мовы земляў вакол гістарычнага цэнтру Русі — Кіеву. Праўда, яе назва зьмянілася — зараз яе памылкова называюць украйнскай, але калі мы захочам ізноў стаць русінамі, то павінны размаўляць на ёй як на несапсаванай рускай мове.

Спадзяюся: той, хто імкнецца адрадзіць Вялікую Русь ва ўсяе велічы, прыгажосьці й несапсаванасьці, з радасьцю прыслухаецца да сваіх шчырых аднадумцаў.

*Віталь Станішэўскі*

## Досьледы

### Зьніч

Зьніч — гэта сьвяты нязгасны вагонь ў паганскіх культах славянаў і балтаў.

Польскі гісторык XV стагодзьдзя Ян Длугаш пры апісаньні вераваньняў і культаў на Літве да прыняцьця хрысьціянства згадваў, што ў Вільні гарэў сьвяты вечны вагонь, у які паганскія жрацы ўвесь час падкідвалі дровы, каб ён ня згаснуў. Захавальнікам гэтага вагню быў сьвятар, якога звалі Зьніч. Паводле Длугаша, Зьніч «... тым, хто прасіў і зьвяртаўся з пытаньнем пра будучыню, даваў ілжывы, нібыта атрыманы ад Боства адказ».

Кароль Польшчы й Князь Вялікае Літвы Ягайла падчас наведваньня ў 1387 годзе Літвы з мэтаю хрышчэньня ў каталіцтва мясцовага люду, загадаў пагасіць вечны вагонь, зруйнаваць сьвяцілішча й алтар, на які ўскладалі ахвярапрынашэньні. Падчас будаўніцтва Віленскага Катадральнага касьцёлу, ягоны галоўны алтар быў ўзьведзены «... на тым месцы, дзе палаў вагонь, які фальшыва лічылі вечным, каб паганская «памылка» стала ўсім больш відавочнай».



*Такія вогнішча палалі на паганскіх сьвяцілішчах (малюнак аўтара)*

У наш час археалагічныя дасьледаваньні ў сутарэньнях касьцёлу выявілі сьляды паганскага сьвяцілішча ды ахвярніка. Ў Мацея зь Мехава замест Зьніч ў тым жа сэнсе была ўжыта назва **zinze** (зінч). Польскія гісторыкі Аляксандар Гваніні ды Мацей Стрыйкоўскі ўжывалі назву Зьніч ў сэнсе «вечны вагонь». Паводле зьвестак іншых храністых, нязгасны вагонь Зьніч гарэў таксама на алтары ў буйным культавым цэнтры Рамове (Прусія), у Ноўгарадзе Вялікім, а ў Воліне (ў сутоцы ракі Одра, дзе знаходзілася сьвяцілішча найвышэйшага паганскага Боства) Зьніч палаў у катле. У XIX стагодзьдзі дасьледчыкі філолагі Антоні Мяржынскі й Акялевіч лічылі, што сапраўдная назва Зьніча была Зініч ды азначала месца, дзе стаяла капішча з палаючым на йім нязгасным вагнём. На думку Яна Карловіча, назва Зьніч (ад жамойцкага **ziniczus** або **zinczius**) вызначала сьвятара, які захоўваў вечны вагонь. У пісьмовых помніках на старажытнай літоўскай мове назва Зьніч ня знойдзена, хаця літоўскія мовазнаўцы выводзяць ад яе сучасны памяньшальны назоўнік «зьнічка» (блукаючы вагонь, падаючая зорка). На думку лінгвістых, назва Зьніч, верагодна мае той-жа корань, што й царкоўна-балгарскае слова «зной», ўтворанае ад **znĕti** — «гарэць» (блізкае да маскоўскага дыялектнага «зноить, знеять» ў сэнсе «палымнець, тлець»; старaславянскае «зноитися»).

У сучаснай літоўскай мове тэрмін Зьніч замацаваўся ў адным з варыянтаў як «сьвяты вагонь ў паганцаў», польскае **znicz** азначае «алімпійскі вагонь, надмагільнае полымя», чэскае **znič** — «сьвяты вагонь ў старажытных ліцьвінаў ды славянаў наагул». Славянская этымалогія назвы Зьніч (з улікам археалагічных і гістарычных зьвестак пра наяўнасьць славянскага насельніцтва ў Вільні XII — XIV стагодзьдзяў) можа сьведчыць пра тое, што на тэрыторыі Літвы да Крэўскае вуніі 1385 году частка насельніцтва славянізавалася, але заставалася паганцамі. Літоўскі гісторык на эміграцыі Паўла Урбан славянскае паходжаньне назвы Зьніч лічыць адным з аргумантаў на карысьць таго, што ліцьвіны былі славянамі ад самага свайго пачатку.

Эдвард Зайкоўскі,
*кандыдат гістарычных навукаў, супрацоўнік Інстытуту Гісторыі.*

## Суседзі

працяг, пачатак на 1, 2-ой старонках

У гады 2-ой Сусьветнай Вайны габрэйскае насельніцтва Літвы значна скарацілася ў выніку фашыстоўскае антысэміцкае палітыкі. Аб гэтым гавораць яскравыя лічбавыя дадзеныя: калі ў 1939 годзе літвякі складалі 6,7% насельніцтва Радовае Літвы, дык па дадзеным перапісу 1959 году — 1,8%. Больш таго антыгабрэйская кампанія 1949-52 гадоў зьнішчыла аскепкі габрэйскае культуры.

Дэмаграфічная гісторыя літвякаў прасочваецца па дадзеных буйных перапісаў насельніцтва. 1897 год — 724.548 (13,6%), 1926 год (ахапіў тэрыторыю Радовае Літвы) — 407 тыс. (8,2%), 1939 год — 375 тыс. (6,7%), 1959 год — 150 тыс. (1,9%), 1970 год — 148тыс. (1,6%), 1979 год — 135 тыс. (1,4%). У 80-ыя гады нашага стагодзьдзя ў сувязі з масавым выездам габрэяў у Ізраэль, колькасьць літвякаў значна скарацілася.

Цягам стагодзьдзяў габрэі Літвы зрабілі немалое наданьне ў разьвіцьцё эканамічнага ды культурнага жыцьця сваёй Радзімы й сусьвету. У прыватнасьці: класік літоўскае літаратуры Зьмітрок Бядуля (Самуіл Плаўнік), Мендэле Мойхер Сфорым — класік габрэйскае літаратуры (нарадзіўся ў мястэчку Копыль), гісторыкі Абрам Гаркаві, Сямён Дубноў, бацька сучаснага іўрыту — Эліэзэр Бэн Іегуда (Перэльман) з вёскі Лужкі з-пад Полацку, доктар-акуліст з Пынску (нарадзіўся ў Беластоку) Людвіг Замэнгоф — стваральнік міжнароднае мовы эспэранто, выбітныя мастакі Марк Шагал (м-ка Лёзна) і Хаім Суцін, скульптар Заір Азгур, хвілёзаф Саламон Маймон, знакаміты псыхолаг Леў Выгоцкі, фізык-тэарэтык Якаў Зяльдовіч, пісьменьнік-фантаст Айзек Азімаў, гравёр Гершка Ляйбовіч, фізык-хімік Віталь Гальдански й першы прэзыдэнт Ізраэля Хаім Вейцман.



*Слонімская сінагога*

З 80-ых гадоў побач з масавым сыходам габрэяў у Ізраэль адраджаецца цікавасьць да нацыянальных традыцыяў ды габрэйскіх каштоўнасьцяў у краінах, дзе гіснуюць дыяспары. Зараз на Літве дзейнічаюць культурныя, рэлігійныя, навуковыя, маладзёвыя арганізацыі. Амаль у кожным месьце гіснуе габрэйская грамада. У Менску цяпер дзейнічаюць дзьве сінагогі, хунцыянуе Вольны Унівэрсітэт Ізраэля, Габрэйскі Народны Унівэрсітэт у Менску ды Гомлі, дзеткі навучаюцца ў габрэйскіх школах, а ў 16 местах краіны дзейнічаюць нядзельныя школы.

У траўні 1994 году адбылася міжнародная навуковая канфэрэнцыя «Габрэйская культура Літвы й яе ўзаемадзеяньне зь літоўскай ды гіншымі культурамі», матар'ялы якое ў 1995 годзе былі выдадзеныя ў чацьвертым зборы «Беларусіка», дзякуючы міжнацыянальнай асацыяцыі беларусістаў і нацыянальнаму навукова-асьветнаму цэнтру імя Праньціша Скарыны. Гэта гаворыць за тое, што, жывучы на літоўскае зямлі, габрэі, вынікаючы ўзаемадзеяньнем у культурным ды цывільным жыцьці, былі ня проста суседзямі ліцьвінам, а хутчэй за ўсё сталіся братамі па гісторыі й лёсу.

**Яўген Кімель**

*пераклад з расейскае*
*L.I.S.a*


Адказныя за дакладнасьць фактаў, пададзеных ў артыкулах, ёсьць аўтары публікацыяў.

**Заснавальнікі:**
*Уладзімер Міхневіч (рэдактар)*
*Уладзімер Пятровіч*
*Алесь Стральцоў*
**Набор:**
*Аляксандра Годзіна*
**Вёрстка:**
*Антон Гіро*
**Тэлефон ў Менску:**
*57-31-83 (Міхневіч У.)*
**Адрэса:**
*220113, Менск-113, а/с 448*
*Уладзімеру Пятровічу*
**E-mail:**
*sasha@by.glas.apc.org*

Спасылка на "ЛІТВУ" абавязковая.


## Каляндар

### Вайна 1654—1667 гадоў

*(хроніка)*

**29 жніўня** Иван Золотаренко ўжо хваліўся цару Алексею Михайловичу новай здабычай — Чачэрскам: «город Чечирск з замком... взяли есмя, противных мечу предали, а иных, на слезы их смотря, живых оставили».

**23 верасьня** быў здадзены Смаленск. Будзе вельмі цікавым распавесьці, як капітулявала гэта ўсходняя фартэца Вялікага Княства Літоўскага... Даўно адрэзаны й заціснуты жалезным колам аблогі, няскораным заставаўся ў Падняпроўі толькі Смаленск. Занядбалыя ўмацаваньні там кінуліся падпраўляць літаральна за месяц да падыходу маскоўскага войску, калі прыехаў інжынер Боналіг. Працавалі ўдзень і ўначы. На'т сам ваявода Абуховіч і камандант Корф браліся за ўкладваньне дзірвану. Але ці можна было за месяц прывесьці да ладу муры, вежы, валы, калі тыя не дагляdaліся дваццаць гадоў... Усіх баяздольных ў месьце было штосьці каля трох з паловай тысячаў. Да тагож сярод йіх былі такія, што й страляць ня ўмелі. Амаль ўсе абаронцы складалі не рэгулярнае войска, а паспалітае рушаньне ды месьцічы. Бальшыня шляхты папросту ўцякла... Чаму мела так мала абаронцаў самая важная ўсходняя фартэца Княства ў крытычны момант?

Яшчэ ў чэрвені Януш Радзівіл дзівіўся з гэтага ды абурана пісаў у лісьце з-пад Воршы, што паны забыліся на свой абавязак перад Айчынай ды бягуць на захад, хоць вінныя заставацца ў Смаленску...

У першыя дні аблогі, калі царскія ваяводы ўзяліся абстрэльваць места з гарматаў, рыхтаваць агульны штурм, стала відавочным, што фартэца ніяк не прыдатная на доўгую абарону. Хіба дзіўнае сілы патрыятызм мацаваў дух смалянаў, дазваляючы йім ня толькі адбівацца, але й прыносіць вялікую шкоду ворагу.

... Уначы на 26 жніўня ваяводы паслалі войска да агульнага штурму, здолеўшы перад гэтым разбурыць гарматным вагнём дзьве вежы ды вялікі кавалак сьцяны, пазьбіваць большасьць зубцоў на вежах і сьценах.

Ратнікі кінуліся на муры із сотнямі падрыхтаваных драбінаў і шмат дзе ўзлазілі на ўмацаваньні, але абаронцы з дапамогаю месьцічаў зьбівалі йіх. У адным месцы смаляне, ня маючы ўжо ні камянёў, ні вару, скінулі на ворага два вульлі з пчоламі, і тыя загналі царскіх ваякаў назад ў акопы... Гэты штурм працягваўся сем гадзінаў, але замак ня быў здадзены.Царскія ваяводы страцілі пад 7 (!) тысячаў забітымі, а параненых мелі ўдвая больш. Абаронцы-ж пасьля штурму сярод жывых не налічылі й дзьвух тысячаў сваіх. Апроч забітых, шмат было параненых. Раны не загойваліся, бо атрымалі йіх смаляне быццам ад атручаных куляў.

Агляд сілаў паказаў, што чарговага штурму цьвердзь ня вытрымае...

Маскоўскае войска ўвайшло ў места, а ваявода Абуховіч, камандант Корф і частка жаўнераў, скарыстаўшыся з абяцанага права па дамове аб капітуляцыі, выехала ў Вялікае Княства Літоўскае. Бальшыня абаронцаў засталася ў замку, прыняўшы царскае падданства. Шмат хто пайшоў «в вечную службу»... Бязьлітасны быў цар Алексей Михайлович да габрэяў. На загад цара ўсіх йіх сабралі разам і запатрабавалі хрысьціцца. Тых, хто прыняў праваслаўе, пакінулі жыць, астатніх пасадзілі ў драўляныя дамы й спалілі...

*паводле кнігі «Невядомая вайна»*
**Генадзя САГАНОВІЧА.**